БІБЛІЯТЭКА БЕЛАРУСКАЙ ПАЭЗІІ

# УЛАДЗІМІР НЯКЛЯЕЎ

## ГАЛУБІНАЯ ПОШТА

*Вершы*

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1987

## КОСМАС

Аднойчы, прачнуўшыся ўночы,
Ты ўспомніш, што ўмееш лятаць,
І стане наіўныя вочы
Халодная бездань смактаць.

І зманлівай згадкай быцця
Цябе працяне аж да поту,
І ўласнае станеш дзіця
Вучыць не хадзе, а палёту.

*1983*

## У ЯБЛЫКІ

Калі азірнуся назад,
Нічога не ўбачу, апроч:
Стаіць затуманены сад.
Бяжыць палахлівая ноч.

Стаіць затуманены сад —
Настылы, дрымотны, глухі,
І яблыкі падаюць пад
Зраселыя лапухі.

Бяжыць палахлівая ноч.
Світаць пачынае здалёк.
Бурштынавы —
толькі падскоч —
На яблыні месяц намок.

Спакуса —
сусвет скалануць,
На пах паспытаць і на смак.
Ды страшна, што могуць пачуць.
Пачулі! Спускаюць сабак!

Шумяць рукавоў парусы,
З-за пазухі znічкі ляцяць,
І зорныя Гончыя Псы
Не думаюць нават брахаць.

Ад чорных сабак бы ўцячы,
Ад страху, што ў пяты пранік.
«Кусі іх! Кусі! Смаркачы!» —
Цкуе на мяжы вартаўнік.

Ідзе па мяжы вартаўнік
І ў цемру страляе наўгад —
На цень мой, на страх мой, на ўскрык,
Калі азірнуся назад.

*1986*

* * *

Што за сумныя песні
    спяваеш ты, Белая Русь!
Як валошкі на ўзмежку
    тужліва яны прарастаюць.
«Ой ляцеў белы гусь...»
    А куды ён ляцеў, белы гусь,
Калі ў небе тваім
    толькі шэрыя гусі лятаюць?
З далячыняў сівых
    наплывае самотны напеў,
Я прадоўжыць яго —
    нават голас мне дай —
    не вазьмуся...
Дык суцешыцца б тым,
    што не толькі хацеў,
    што паспеў
Праляцець над табой,
    прамільгнуць над табой белым
                                гусем...

*1971*

* * *

Аднавяскоўцы мае.
Аднавякоўцы мае.

Сёлета ніва ўрадзіла.
З чаркаю бацька ўстае.
Вечар... Сузор'і... Радзіма...
Аднавяскоўцы мае.

Бохан чарнее прыгаркам.
Голад чарнее нічым.
Вып'ем паднятую чарку,
Пусцім па кругу цыгарку
І памаўчым.

Цесна ў бацькоўскае хаце.
Ды ў цеснаце — не ў бядзе.
— Суньцеся, дзядзька Ігнаце!
Цётка Данута ідзе.

Лава дугою прагнута.
Чар-
кі
ляцяць са стала.
— Мо засяваеш, Данута?..
І павяла, павяла...

«Ой аддалі маладую
  На чужую старану...
    Ой, бяду я адбядую,
      Ой, зіму я адзімую,
        Ой, жыццё я аджыву...»

— Сумна спяваеце, бабы.
Дзе там гармонік? Ану!..
Бабы ўспрацівяцца слаба:
— Зноў мужыкі пра вайну...

Сыплецца позняя квецень.
Позна гармонік пяе.
Песні...
        Жыццё...
                Ліхалецце...
Аднавякоўцы мае.

*1976*

## РЭЙСАВЫ АЎТОБУС

Далягляд жаўцее пожнямі.
Дня сухмень. Павек тамленне.
Звыклы шлях...
Шафёр апошнія
Слухае паведамленні.

Што і як на нашым глобусе?
Скуль, куды ідзе пагроза?
Пахне хлебам у аўтобусе
МІНСК — БЯРОЗА.

Той аўтобус ледзьве дыхае,
Ледзь адольвае грудкі.

Афіцыйны голас дыктара.
Тры бабулі. Два дзядкі.

Лёс, лічы, амаль адмераны.
Што ж ім нечая бяда,
Бліжні Ўсход і ўсе Амерыкі!..
— Не скажы... Людзей шкада.

І глядзяць вачмі блакітнымі,
Як святыя з абразоў,
Сто разоў вайною бітыя,
Паленыя сто разоў! —

Крэўныя мае!
За кожнага
Сам — на крыж і на касцёр...

— Весялей глядзі, заложнікі,—
Жартам кідае шафёр.

...Мы — заложнікі, заложнікі!
Покуль дзень навек не згас,
Мы — за кожнага, за кожнага,
Нат за тых, хто супраць нас.
Нашы сэрцы не жалезныя,
І да страшнага суда
Мы ў залежнасці,
залежныя
Ад усіх, каго шкада.

Як бярозы белакорыя,
Душы свецяцца ў смузе...

Моўчкі курым «Беламорыну»
Мы з шафёрам па чарзе.

Ён ківае мне па радыё,
Уздыхае:
— От народ...
Дзень які! Жыві і радуйся...

Дыктар зноў пра Бліжні Ўсход.
Кулі свішчуць. Бомбы вухаюць.

Дзень які?.. І век які?..

А бабулі памяць слухаюць,
Памяць слухаюць дзядкі.
Дыктару ў адказ павохаюць
І ўпадуць у забыццё,
На грудзях абняўшы боханы,
Як надзею на жыццё.

*1983*

## 9 МАЯ

Спытае нехта: як жывеш?
І ты ў адказ кіўнеш: нічога...
Пасля спытай сябе самога:
Як ты жывеш? Ці так жывеш?

Прыйдзі да Вечнага агню
І моўчкі, стаўшы на калені,
Правер агнём сваё сумленне
На праўду і на чысціню.

Калі ж устанеш прысягнуць
Усім, хто не вярнуўся з бою,—
Ты не шукай іх за спіною.
Яны наперадзе ідуць.

*1982*

## КАЖУХ

Я вырастаў з дзіцячых апранах
Хутчэй, чым травы ў лета выраставі.
Ды не ў дакор
за рост не па гадах
Абновы мне гады ў рады спраўлялі.

Ну што пашыеш з лахманоў вайны?
Якія ў вёсцы зрабаванай грошы?
А дзед бухторыў:
«Поліўка... Бліны...
Някепская яда — і рост харошы».

Як ні зіма — так звычная бяда:
Што апрануць, каб халады агораць?
Маўчаў я злосна: «Добрая яда!
У Лёнькі у суседава не горай.
Але ў мяне палаплены кажух,
А Лёньку на зіму спраўляюць новы...»

Дзед уздыхаў, дзед пераводзіў дух,
Казаў: «У Лёнькі бацька не вясковы.
І старшыня. З тваім не параўнаць».

«Кіла ў яго! — злаваў я.— Скваппы. Хіжы.
А старшыня — дык заўтра могуць зняць.
Ён рыжы. П'е. У нас не любяць рыжых.

Ім шчасце
Чорт
варожыць на ражнах,
Вядзьмак ліе
Алей ім у маслёнку...»

Патроны мы шукалі ў бліндажах —
І тут лімонкай і забіла Лёньку.

Ягоны бацька з п'яных слёз апух,
А вечарам, памінкамі дабіты,
Прынёс да нас пад пахаю кажух
І кінуў: «На!.. Хоць не табе пашыты».

Я закрычаў. Я ўрос плячыма ў печ,
Да кажуха баяўся дакрануцца.
Сусед прасіў: «Вазьміце... Гэта ж рэч...
Вазьміце, людцы! Ну, вазьміце, людцы!..»

Знямеў мой крык. Паплыў у вочы змрок.
— Ачуйся ты! — суседа ў спіну білі.
А ён сваё: «Харошы кажушок...
Прымерайся... Навыраст Лёньку шылі.
Табе, бадай што, будзе ў самы раз,
Ты ўзяўся ростам!.. Вунь які ты выйшаў!..»

І белы свет перада мной пагас.
Дзед плакаў ранкам:
«Малайчына... Выжыў...»

...Я выжыў. Мне хапае апранах.
Грукочуць па мастах гадоў вагоны.

Я помню Лёньку. Я ў жахлівых снах
На кажусе лятаю на ягоным.

І Лёнька мне з міжзорных завірух,
З той далечы, што назвы ўжо не мае,
Крычыць: «Аддай! Аддай! Аддай кажух!»
...І з кожным сном бліжэй ён падлятае.

*1975*

2 Зак. 2639

## ВАДЭВІЛЬ У ДВУХ АКТАХ

Заходзь у мой дом, чалавек!
Знаёмы ці проста прахожы.
Не бойся мяне патрывожыць,
Заходзь у мой дом, чалавек.
Нараніцы, днём і ўначы,
Заходзь у хвіліну любую;
Як ёсць што сказаць — памяркуем,
Няма што сказаць — памаўчым.
Заходзь, чалавек, да мяне,
З бядою заходзь і турботай,
І проста, калі захлыне
Ў натоўпе людскім адзінота.
Заходзь, чалавек, у мой дом!
Мы нешта прыдумаем разам,
Адолеем крыўды, абразы,—
Заходзь, чалавек, у мой дом.
Так верш я скляпаў. Неблагі...
Не горшы з усіх маіх вершаў.
Ды гэта пакуль што АКТ ПЕРШЫ.
А вось

АКТ ДРУГІ.

Стук у дзверы.
— Хто там?
— Незнаёмы. Адчыніце...
— Хто вы?
— Незнаёмы.

— Што вам трэба?
— Мне ад вас?.. Нічога.
— Ну тады ідзіце сабе з богам.
— Як жа так... Някляеў вы?
— Някляеў.
— Ведаеце хто я?
— Не ўяўляю.
— Я чытач. Я верш у вас знайшоў,
Вы там напісалі:
Днём і ўночы,
Хто захоча і калі захоча,
Хай ідзе да вас.
Дык я прыйшоў.
— Кіньце жарты. Ноч. Не адчыню.
— То навошта верш вы напісалі?
— Вы вар'ят!
— Дык вы пажартавалі?
— Слухайце, я зараз пазваню,
Каб па вас з міліцыі прыслалі!
— Вось як... То бывайце... Я дарма
Кожнай косцы ў вершы вашым верыў...
«Што ж рабіць?»
Я адчыняю дзверы,
Толькі там нікога ўжо няма.
Ці здалося ўсё мне?
Я стаяў,
Думаў пра няўдалую размову.
Нехта ж быў...
І нехта майму слову
Верыць перастаў.

*1974*

## ВЫНАХОДЦЫ ВЯТРОЎ

*Рыгору Барадуліну*

Вынаходцы вятроў!
Міжсусветныя стаеры!
Вы на гонцы вякоў
На які век паставілі?

Калі вам — або мне —
У кнігарні ці ў булачнай
Хціві смоўж шаптане:
«Стаў на будучы...» —

Да спакусных высноў
Не скраніцеся душамі.
Вынаходцам вятроў
І ў сучасным не душна.

Душна тым, хто як цень
Быць пры Сонцах прыручаны.

Кожны ветравы дзень —
Ваша будучае.

Покуль раю рабы
Мрояць светлыя далі,
Цяжка гніце гарбы,
Каб вятры не змаўкалі.

*1976*

## ПАЎДНЁВАЯ ПОЎНАЧ

*А ў час гэты зоркавы*
*Дарогай спатканняў*
*бязлітасна позніх*
*Прайшла, затуманіла зрок мой*
*Паўднёвая Поўнач.*

З ранніх вершаў

**У асцярогу хутацца.**
**Лаяцца сыта.**
**О, забаронена хуткасці**
**Смак пазабыты!**

**Навошта, нібыта ў сподачку**
**Рыбка пад марынадам,**
**Ты прыплываеш з Поўначы?**
**Страўнік мой радаваць?**

**Курортны гастрытык**
**Пад гэту закуску**
**кіліх налівае**
**Не поўны.**
**Вясёлы і спрытны —**
**Я спёкся...**
**Разыдземся,**
**Поўнач!**

**Усе твае белыя гамы**
**Я граю на памяць!**

Што ж горача, як пад нагамі
Тарфянікі паляць...

Гуляю на Поўдні,—
А ў небе, як краб у палонцы,
Высушвае промні
Тваё зледзянелае сонца.

І поўня
на воблака ўскрайку
Святлее над ночы мазутам
Так, быццам
у ноч гэту ўкраўся
Твой, Поўнач, лазутчык.

Між намі прастора,
Якой на краіну хапае.
А цёплае Чорнае мора
Раптоўна сцюдзёнай запеніцца хваляй.

А сыдуцца хмары —
І градзіны скачуць на пляжах.
Якую ахвяру
Яшчэ патрабуеш,
не скажаш?

Прынцэса ў карунках,
Злічы мае страты і згубы.
Твае пацалункі
Навек апалілі мне губы.

Кахала сурова,
А сэрца забрала
палову.
Ці так ганарова,
Што я твой палонны?

Разыдземся, Поўнач!
Туга невыносная поўніць.
Што трэба мне помніць —
Я помню:
...На спідометры стрэлка гакала,
Калі з поўнай калодай тузоў
Я ляцеў у расхрыстаным «газіку»,
Не кранаючы тармазоў...

*1977*

## СЕМЯ

...І сціраўся лягчэй,
чым сціраецца след ад алоўка,
На імклівай вадзе чаратамі запісаны лёс...
Ён ішоў наўздагад;
да хрыбта прыкарэлаватоўка.
У хусцінцы шаўковай ён семя таемнае нёс.
Як ад смерці ратуюцца,
ён ад жыцця ратаваўся,
І жыццё абмінала, і смерць не шукала яго.
Тры разы пакідаў,
тры разы да каханай вяртаўся,
На чацвёрты вярнуўся —
ды ўжо не было да каго.
Ён на полі пустым
тры начы прастаяў нерухома,
На чацвёртую ноч
кінуў семя з хусцінкі ў раллю.
І зямля скаланулася,
быццам ад нізкага грому,—
І адрынула семя... Тады ён пакінуў зямлю.
У чатыры канцы
ён ляцеў у здабытай прасторы —
І нікога за ім, і нічога прад ім не было.
...На абражаным полі зраселі апалыя зоры,
І паўночнае ззянне
паўліным хвастом расцвіло...

*1980*

## ПАКІНУТЫ БЕРАГ

Перад зярнятамі, што прападалі,
Схілімся долу.
Не выпадае, не выпадае
Вылічыць долю.

З берага
                    ветрам пакошаных траў
Цягне да неба.
Толькі ў вышынях, куды прарастаў,
Цёмна і нема.

...Зорка зрываецца, як з далані
Кропля блакітная...
Не падмані, не падмані,
Бераг пакінуты.

*1981*

## ПРОСЬБА

Дапамагае берагу рака.
Дапамагае бераг ніцым вербам,
Ралля — ўзысці,
а колас — выспець зерню.

І вышыня — птушынаму крылу,
Марская хваля — плаўнікам дэльфіна.

Дапамажы мне хоць напалавіну,
На чвэрць, як ты магла б, дапамажы,—

Мы дапамогай звязаны ў адзінае,—
На бераг Даравання прывядзі мяне,
Дзе зерню — каласіцца,
Вербам — ніць...

Не ведаю, аб чым яшчэ прасіць.

*1972*

* * *

Не з першага крыку,
Не з першай слязіны,
Не з першага смеху
Пачаўся быў я,
А пачаўся быў з першага снегу
Над плошчай вакзальнай,
дзе ты мяне ціха гукнула,
І перш чым гукнула —
Пазнала,
Прызнала,
Пачула,
І перш чым сляды нашы, збегшыся,
рушылі побач,
І перш чым у дом наш
Прыйшла варажбіткаю поўнач,
І перш чым цябе анідзе
Назаўсёды
Не стала —
Сняжына апошняя
Першага снегу
Растала...

*1980*

* * *

Дзе голаў прытулю,
Там і знайду начлег.
Снег першы —
На зямлю,
Наступны снег — на снег.
На рану —
Першы боль,
Наступны — на шрамы,
На лёс, на стынь і золь,
На першы след зімы,
Што толькі пачала па снежні свой разбег...

Прыбегла. Абняла.
З плячэй страсае снег.

*1985*

* * *

На радасць, на радасць, на радасць
Зямлі, чалавеку, былінцы
Вясёлая зорка над садам,
Руплівы шпачок на галінцы.

На радасць —
                    а нехта канае,
Пакутуе хтосьці нявінна.
А зорка міргае, міргае,
Спявае шпачок і спявае
Наіўна, наіўна, наіўна.

*1984*

## З БАДЛЕРА

Не прыйдуць уначы — і катаваць
Не павядуць у змрочны склеп, за краты...
Злачынец, спі! Няма каму пытаць:
Ты вінаваты ці не вінаваты.

Суддзя твой спіць, і спяць вартаўнікі;
А ў ката у твайго сягоння свята,
Яму й няўцям, што ты жывеш такі,
Хай вінаваты, хай не вінаваты.

Забойца, спі! У кнігах спіць закон,
Дзяржаўны пыл на літары закона
Палёг...
            Ты спі! Твой палахлівы сон
Ніхто не прыйдзе патрывожыць сёння,—

Дык што ж крычыш! Чаго баішся? Ты!..
Прад кім гатовы ўпасці на калені?
Перад сумленнем? Прэч яго!
                                        Сумленне —
Вярыгі рознай дробнай сваты,—
А ты!..

І ўсё ж не спіш...
Крычыш...
Баішся ты...

*1973*

## КЕВАЛАЧ

Не так жыў, як усе...
Сабе самому кветкі
Купляў,
насіў пукатае пенснэ,
Плаціў без аніякай спрэчкі ўзносы
У карысць добраахвотных таварыстваў,
Адпачываў не летам,
а навосень,
І ездзіў не на поўдзень,
а пад Мінск,
І мёрз там васемнаццаць дзён на дачцы,
Падобнай на сабачую буду,
Цягаў усюды за сабою скрыпку,
Але ніхто нідзе не чуў ніколі,
Каб ён іграў на ёй або хаця каб
Даваў камусьці іншаму іграць...
Вось так ён жыў.
А побач жыў сусед і не купляў
Нікому кветкі, не насіў пенснэ,
Заўжды з-за ўзносаў лаяўся, у жніўні
Адпачываў,
і ўсё на поўдзень ездзіў,
І час ад часу сам іграў на скрыпцы,
Але ніхто нідзе таго не бачыў,
Каб ён насіў яе з сабой або хаця каб
Даваў камусьці іншаму насіць...

Так жыў сусед.
І так яны жылі
Адзін перад адным, нібы ў люстэрку,
І, мабыць, нехта з іх
Жыў так як трэба,
І нехта, значыць,
Жыў наадварот.

*1974*

## СІТУАЦЫЯ

Дрыготкія цені чароту...
Ударыш вяслом па вадзе —
І пырскі рассыплюцца шротам,
І рэха кругамі ідзе
Да берага: «Што ты?.. Чаго ты?..»

Не віскне сабака ў двары,
Прыходзь — і што хочаш бяры,
Не ўскінуцца гаспадары,
Бо спяць як прадаўшы пшаніцу,
Нічога ніхто не баіцца,
Ніхто і нічога!..
Назад
Ад берага рэха адрыне.
...І толькі шалохнецца сад
Ды ўспудзіцца конь у адрыне...

І вуха нядрэмнае ўскіне
У чуйную ноч
Канакрад.

*1984*

3 Зак. 2639

## ДУБОЎКА

*Памяці бабулі маёй, салдаткі*
*і маці чатырох салдат*

Асколак шкрабануў рыдлёўку.
Баліць яшчэ ў зямлі вайна...

Па доўгай вуліцы Дубоўкі
На ручніках плыла труна.

З заволжскіх стэпаў веяў сівер.
Тут пахаваны землякі —
На могілках уздоўж ракі,
На правым беразе Расіі.

Яны прыйшлі сюды з лясоў
Прыбужжа,
Нёмана,
Гярвяткі,
З асірацелых тых дамоў,
Дзе па начах крычаць салдаткі,
Дзе на ўзбярэжжах Беларусі
Ляжаць з Паволжа землякі.
Які прасцяг магіл! Вякі
Ляцець над імі завірусе!..

О сувязь болю
Над зямлёй жывых
І мёртвых гэтым болем!..
Даруй, салдатка, што ніколі
Не цалаваў я рук тваіх.

Слязой
        на вейках боль суцішу,
На веку — камяком рудым...

А сівер голле дрэў калыша
І з комінаў зрывае дым!

Жыццё ідзе — і трэба жыць.
І на памінках цэлы вечар
Я нешта буду гаварыць
І буду каяцца у нечым.

А ранкам, горкі ад віна,
Пайду да свежага пагорка —
Перад сусветам і Дубоўкай
Сам вінаваты,
Як вайна.

*1972*

## ГЕРНІКА

Сны
Азёрамі плешчуцца ў мроіве ночы,
Азёрамі
            белых і чорных дажджоў,
Азёрамі
Вады і крыві.

Рукі закіну
І зачарпну
Далонямі — белых і чорных дажджоў,
Прыгаршчу — вады,
Прыгаршчу — крыві.

Прачнуся: далоні
Адна ў адной
На падушцы, абступленай снамі,
Напоўненай пухам,
Сцягамі і зброяй.

*1975*

## КУЛІНА

Вярнуцца ў маленства пры гомане дня —
І ўспомніць, як ссекчы на дрэве галіну:
Была сярод іншых гульняў
Гульня
Дражніць старую Куліну.

— Куліна, Куліна, хто твая матка?
— Кулініна матка — спадніца ў латках.

— А хто, Куліна, твая свякроў?
— Куліне свякроў — ліхая кроў.

— Куліна, Куліна, а хто твой муж?
— Кулінін муж — стары капялюш.

— Куліна, Куліна, а хто твае дзеці?
— Кулініны дзеці — палёўкі ў клеці.

Нядаўна было... А прайшлі, праплылі
Гады мае ранкамі роснымі...
Дзяцінства не ведае жалю, калі
Не помніць спагады дарослыя.

«Вядзьмарка!..» —
                    і рогат ляцеў над табой,
Дзяцінства маё!..

Праз аер і маліну —
Гаротай сваёй, басатой, галыцьбой —
Цябе даганяла Куліна.
Заблытвала ногі ў траве ля бяроз,
Зноў бегла, матляючы торбаю сачыка...

Ніхто не даруе нам крыўды і слёз —
Адплаціцца ўсё і адплачацца.

Няўмысную крыўду грахом не лічу...
І ўсё ж —
як дамоў прывядуць каляіны —
Хаваючы вочы, няўклюдна маўчу,
Сустрэўшы старую Куліну.

Яна ўжо даўно мяне не пазнае...
Але, быццам памяці лютая спадчына,
Мне чуецца скрогатны голас яе:
«Адплаціцца ўсё і адплачацца!»

Спытаю:
«Куліна, якая віна
Мая прад табою?!.»
Адказ не пачую...
За што ж тады ўслед мне ўсё шэпча яна
Дражнілаўку тую,
Дражнілаўку тую?..

Жыцця палавіна... Жыцця палавіна...
Старая Куліна... Старая Куліна...

*1979*

* * *

**Выйшаў. Хіснулася поле**
**За небасхіл неадольны.**
**«Любая, што гэта?»**
**«Воля».**
**«Волі не ведае вольны».**

**Біўся. Вяртаўся дахаты.**
**Голаў качаў на падоле.**
**«Любая, што гэта?»**
**«Краты».**
**«Знаю. За кратамі — воля».**

*1980*

* * *

*Туды адгэтуль не дабрацца.*

Огдэн Нэш

Загаманілі, загрукалі колы
Спадам трывожным...
Што замаркоціўся, што невясёлы,
Мой спадарожнік?

Як пакідаеш, каго пакідаеш,
Сябра, дзяўчыну?
Суму свайго не дазваляеш
Ведаць прычыну.

Мусіць, абодвум нам сёння не трэба
Слёзнай спагады.
Кружыць за вокнамі нізкае неба
Колеру здрады.

Рвецца цягнік з-над яго, падмінае
Вёрсты за вёрстамі.
Там праяснее... Там нас чакае
Добрае. Простае.

Толькі вось памяці шлях — адваротны,
Даўняя справа.
Гэтак паўзе скатаваны, гаротны
Трус да удава.

Гэтак забойцу да месца злачынства
Цягне няўмольна...
Мой спадарожнік! Наперадзе чыста!
Светла! Прывольна!

Мой спадарожнік, мы не галернікі,
Не прыкаваны!
Нашы надзеі, нашы амерыкі
Не адкрываны.

Будзе жыццё з карагодам і танцамі,
З песнямі ў згодзе!..
Гэта яшчэ не апошняя станцыя,
Што ж ты выходзіш?!

Што ты ў акенца зачыненай касы
Ціснеш рублёўку?..
Бліснуў сустрэчны, як з-пад абцаса
Падкоўка.

Туга хіснуў на слупах правады
Вецер імклівы...
Нехта спяшаецца, рвецца туды,
Адкуль уцяклі мы...

*1977*

## ХАДОК

*Уладзіміру Караткевічу*

**Біклага, кульба, торба на плячах —**
**На нашым часе**
**выгляд маскарадны.**
**Нікому і ні ў чым не падуладны**
**Хадок ідзе, таму што выбраў**
**Шлях.**

**З дубровы ў бор, з нізіны на грудок**
**Ідзе хадок,—**
**а бэйбусы, барыгі**
**Крычаць: «Гэй ты! Дзе крыж твой? Дзе вярыгі?»**
**Хадок ідзе. Таму што ён**
**Хадок.**

**Ён выбраў шлях — і ўжо не зверне ўбок**
**Ад ісціны, вядомае спрадвеку:**
**Амаль усё, што трэба чалавеку,—**
**Скарынка хлеба ды вады глыток.**

**Амаль усё. Амаль, амаль, амаль...**
**Але не ўсё, калі камяк у горле,**
**Не ўсё, не ўсё — калі душу агорне**
**Па незабыўным непазбыўны жаль.**

**Па кім? Па чым? Ці не па ўсіх і ўсім:**
**Па каласах тых, што на ўзмежку поля,**

Па тым — што праўда, і па тым — што воля,
Па самым любым, самым дарагім,
Па ўсіх, па ўсім — да слёз, да слёз, да слёз
Па самым крэўным у чужынным свеце,
Што княжым ветрам прашуміць у вецці
На спеўных вежах полацкіх бяроз
Ці паляўнічым рогам прагудзе
Ля Турава — і адгукнецца ў Крэве...

Хай шлях кружны, нібыта кольцы ў дрэве,
Бясконцы шлях. Але хадок
Ідзе.

Усё сваё з сабой нясе... Яму
Таго даволі, больш чым неабходна,
Каб зратаваць сасмяглых і галодных.
Каго? Яму вядома аднаму.

Ідзе хадок. Над ім дажджыць, сняжыць,
Яму не выйсці з гэтай кругаверці:
Ён ведае так мала, каб памерці.
І гэтак многа ведае, каб жыць.

*1979, 1984*

* * *

Пералётная птушка зламала крыло аб драты
Каля бацькавай хаты.
І крычыць, як жалеза пілуе, яна:
«Гэта ты! Гэта ты!
Гэта ты вінаваты!»
І на крык яе
кругам
вяртае важак чараду —
Што ён стане рабіць?..

Вёдры ў хаце пустыя...
Так страшна ісці па ваду,
Быццам
Будуць
Бамбіць.

*1983*

## ЛІНІЯ ЛЁСУ

Аэранаўтыкі законы
Найпростыя:
бяры
і клей...
І ўзвіўся над крутым адхонам
Размаляваны пад дракона
Паветраны
Лятучы
Змей!

Неспадзяваны
Шлях крылаты,
Зямны
непрадказальны шлях:
Да вышыні, струной напятай,
Уніз
па ямах,
камянях,
Дзядоўніку набіўшы ў пяты...

І захаплення крык!
І страх!
А не ўпадзі,
мой лёс,
узняты
Драконам аб шасці хвастах!

У вёскі ўсёй навідавоку
Лупае ён, вогненнабокі,
Рве сураву́ю нітку з рук.
Рубцом
смыліць далонь пякуча,—
Вышэй,
Вышэй,
мой змей лятучы,
За кругам круг,
За кругам круг!

...Супроць нябёс — зямля сырая,
І лёс — кругамі скрозь агонь.

Трываю. Вышыню трымаю.
Балюча нітка суравая
ўрасла ў далонь.

*1983*

## МОСТ ШАНДАРА ПЕЦЁФІ

Паэт не той, хто вершы піша, не.
Каб так было — усе былі б паэты.
Паэт сябе стварае, як камета
След самагубны,—
Самагубнасць гэта
Сапраўднага паэта
Не міне.
Яна адна правы яму дае
Сумленнем быць і праўдаю народа.
Паэт не той, хто апяе свабоду,
А той, хто ў бітве згіне за яе.
З такою доляй ці пашчасціць мне?..
Вадой маўклівай, часам замучонай,
Плыве Дунай — і раптам уздыхне
То хваляю зялёнай, то чырвонай.
Яго дыханне запаўняе Пешт
І заціхае ў вузкіх вулках Буды...
Не страшна думаць мне, што ў рэшце рэшт
Заціхну я...
закончуся...
не буду...
Што не бясконцы дзён маіх сувой...
Мне страшна не счакаць хвіліну тую,
Калі, сарваўшы ў сечы голас свой,
Паэты шчодра плацяць —
Галавой —
За слова, што нічога не каштуе!

**Мне гэткай платы будзе не шкада,**
**Хай толькі лёс прыняць яе захоча...**
**Пецёфі мост пагрозліва ракоча.**
**Цямней за ноч дунайская вада.**

*1976*

## ПЕРАВАЛ

Стрэч бясхмарных не зычу.
Пахілю галаву —
І бядою паклічу,
І слязой пазаву.

Сярод прорваў і скал
За вялікую плату
Я набыў перавал,
Дзе не сорамна плакаць.

Падымайся сюды
Слухаць клёкат арліны,
Паглядзець, як гады
Застываюць лавінай.

Ад няпэўнага покладу
Млосных жаданняў
Падымайся на покліч
Вышыні і кахання.

Падымайся пад хмары,
Што грамамі равуць.
Не жалобнай ахвярай,
А паплечніцай будзь.

Над абрывам адчаю,
Над безданню болю
Я цябе прысвячаю
Палёту і бою,

Каб дарэшты спазнаць,
Што я страчваў памалу...
Перавал адстаяць.
Не сысці з перавалу.

*1977*

* * *

*Людміле*

Уступаю ў пару лістапада.
Дай руку.
Аціхае зялёная музыка звадаў,
Пад якую скакаў я,
Як цэп на таку.

Прадчуваннямі сэрца зайшлося.
Падрыхтоўваю споведзь лясам.
Вось збылося...
Што збылося —
не ведаю сам.

Выпраўляе нас лета,
Выпраўляе —
назад не чакае...

Ведай, любая, ведай:
Непінуча кахаю.

Дай руку, хай спаткаюцца
Акіяны пяшчоты і млосці...
Маладосць прадаўжаецца
Успамінамі аб маладосці.

Гэтай сумнай высновы
У наступныя дні
не бяры.

Недзе цень мой сасновы
Шчэ шуміць у бары.

Недзе твой,
                    тапаліны,
Атуляе чаромху і бэз...
Можна жыць з успамінамі.
Можна без.

Ранак наш — верагоднасць...
Непазбыўна планету цяжарыць
Непарыўная роднасць
Пладоў і пажараў.

Ты абрана прыродай,
Яна табе права дае
Таямніцай валодаць —
І не знаць пра яе.

Спачуваць?..
                    Ці зайздросціць?..
Твайго болю збаўлення
Не ўспомню!
Маладзік маладосці
Акругляецца ў поўню.

І прыходзіць гадзіна
Не збіраць і раскідваць камені,
А прад любай,
                    адзінай
Стаяць на каленях.

**Праз яе парадніцца**
**З кожным дрэвам, вадою, травою...**
**Дай руку,**
**Дай мне зноўку з'явіцца ўратаваным**
**табою...**

*1978*

## ПЕРАД ТАБОЙ

...Я з лёсам
Біўся на нажах,
Пакуль мяне ты не любіла.
Ты мне адкрыла смерці жах...
Не,
Жах жыцця ты мне адкрыла.

На міг
        на ростанях сусвету
Любоў
Знайшла маю душу.
Я не прашу кахаць за гэта...
Я літасці тваёй
Прашу.

*1983*

## РАЗРЫЎ

Узняў кулакі над сталом —
І грымнуў аб стол кулакамі:
«На скос, на распыл, на разлом
Усё, што было паміж намі!»
І не азірнуўся ў дзвярах...
І бачыў да скону штоночы
Два чорныя возеры ў снах:
Сірочыя сынавы вочы.

*1984*

## СПАДАРОЖНАЯ

...І выпадкова, плоць да плоці
Нас кінула на павароце,
І шляху пыльная шляя
Між ліп згубілася высокіх.
Зеленавокая мая!
Я не люблю зеленавокіх.
Ды асляпіла гэта сіла,
Што скразнякамі ў нас гудзе.
На міг адзін яна зрадніла —
Яна навекі развядзе.
Ніхто не будзе вінаваты!..
А ты —
          да страты, да расплаты,
Да развітання за вярсту —
Глядзіш,
          нібы сястра на брата.
Як сірата на сірату.

*1983*

## ЖАЎНА

*Ніне Мацяш*

Нават рэха няма ў гэтым лесе,
Няма нават рэха.
А бывала чутно,
Як вавёрка гуляла арэхам,
Перакідвала з зуба на зуб...
Векам, дупламі сточаны дуб
Больш не просіць,
Каб дзяцел прачысціў старэчае вуха —
Няма чаго слухаць.
Глуха
Ад відна да цямна,
Быццам лес гэты выкляты лёсам...

І заплакала раптам жаўна,
Не — запела адчайна жаўна,
Што спрадвеку была безгалосай!

Як звінела яна!
Скуль яна?.. і якая яна?..—
Не відно!.. Толькі голас цярэсты!
Толькі ў медным аркестры
Залатая струна!

І ледзь-ледзь ажыла,
Загула
Медзь, якая была анямела.

Палавіна аркестра гула: як змагла?
Палавіна гула: як пасмела!
Сыч схаваўся ў дупло.
Закрычала сава зварʼяцела:
«Тут такой не было!..»
Мала што не было!
Не было — прыляцела.
Над будзённаю скрухаю
Святкаваў
залаты яе голас...

Песні трэба, каб слухалі.
Каб на песню быў голад.
Толькі лес — як сцяна.
Зрэдку вецер у вецці шугае...

Паляцела жаўна.
Дзе яна свайго лесу шукае?

*1983*

## ПЕРАЧЫТВАЮЧЫ БАГДАНОВІЧА

Ведаю тое, што ведаў:
Вынішчу памяці сад —
І паплыву, і паеду,
І не паклічуць назад.

І на зямлю Беларусі,
Накапаванай парой,
Толькі травою вярнуся,
Цёмнай магільнай травой...

*1977*

## РОДНАЕ

Вясновы першы гром
Скаціўся, як з гары,
І рэха ля крыніц дубы хістае.
Буслiная зямля. Азёры ды бары.
Акопы ды палын. Зямля святая.

Тут не забыты плач.
І не забіты смех.
Не аціхае спеў чарод птушыных.
Тут дождж не проста дождж.
І снег не проста снег.
Бо гэта дождж і снег
                над берагам
                Айчыны.

*1982*

## БЯРОЗА БОЛЮ

Начую на палях вайны.
Неверагоднасць лёсу мрою.
Хатынь!
Мне не даюць спакою
Твае званы.
Прад пеклам не перахрысціцца.
Мне сёння сніцца,
Заўтра сніцца,
Як прагінаюцца масніцы,
Як соль бялее на паліцах
У хатах спаленых тваіх...

Палі.
Паліцы.
«Стась! Паліцыя!!!»
«Па нас?»
«Па ўсіх!!!»
Па ўсіх... Па ўсіх...

Дабру, даверу — насцеж дзверы!
Давер апошні барані,
Прыцісні да грудзей аберуч
І рук
Не разамкні ў агні,
Глядзі,
як гаснуць вачаняты...

Дымы над хатамі!
Грамы над хатамі!

Лёг сейбіт на свае барозны
Счарнелым тварам
Дагары...
Стаяць над сейбітам бярозы,
Шумяць, святлеюць тры бярозы.
Маўчыць чацвёртая...
Гарыць...

Эпоха!..
Анекдот салоненькі
Паспела з цукрам перацерці?!
Свет задыхаецца сімволікаю
Смерці!

Вайна,
Ты мяса не нажэрлася?!.
Па волі д'яблавай
Ці боскай
Растуць
сярод гарматных жэрлаў
Бярозкі?

Да іх прымераны
Сякеры,
Але ў прыродзе —
Дабру,
Даверу
насцеж дзверы,
Як на ўваходзінах!

Хатынь!..
Твае нябёсы выцвілі...
Як рэха стрэлу —
ветру пошчак.
Я не затым прыйшоў, каб выціснуць
Слязу
На вогнішча.

Я ніцма ўпаў на поле мёртвае,
На попел поля —
Пад залатую,
пад чацвёртую
Бярозу болю.

*1979*

## ГАРМАНІСТ

«Слухай, давай мы з табой пагамонім.
Сядзем ды вып'ем віна.
Я паіграў бы табе на гармоніку,
Каб не вайна.

Ах, быў гармонік!
Басовыя — з жоўцю,
З цёмным блакітам — галасавыя...
Чуў бы ты,
                    як па руках маіх жонка
Дзень галасіла
І ноч галасіла.

Я па ўспаміны не люты —
Будзем мужчынамі.
Толькі бываюць мінуты —
Жыць немагчыма.

Ты не падумай!..
                    Хоць выжыў на мізеры —
З просьбамі ў пояс нікому не кланяўся.
А немагчыма — калі ў тэлевізары
Рукі
        і клавішы.

Памяць мая траўянее ў акопе,
Міны ўзрывае...

А на гармоніку кожную кнопку
Помню.
Іграю.

Так, брат,
накоціць, агорне, ахутае! —
Толькі не вернеш...
Дай, калі ласка, далоні. Пахукаю.
Пальцы
Замерзлі».

*1980*

## ВОБЛАКА НАД ШКОЛАЙ

— Воблака гэтае хоць пастрыжы:
Пасецца на небе авечкаю воблака.

— Ага. Пастрыжы і ад страху бяжы:
Яно на мядзведзя падобнае воблікам.

— Не, у яго плаўнікі, як у рыб.
— На выбух падобна.
— На атамны грыб.

— Дурань!.. Яно — як капа на мяжы:
Бяры
        і складай у рэзгіны.
— Як грыб, я кажу!
— Сваёй мамцы скажы!..

Гульні дзіцячыя... Сны... Міражы...

Воблака гэтае на віражы
Чатыры стрыжы, як чатыры нажы,—
Зрэзалі.

*1984*

## ЛЯЎКІ

Дарога вяла на Ляўкі.
Праз ніву.
Праз лес.
Праз вякі.

Цяжарна ўздыхала ралля.
Храплі на аселіцах коні.

Свістала ў прасторы Зямля —
Каля небасхілу,
Каля
Той жылкі, што б'ецца на скроні.

Дарогу
          ўздымала
                    гара,
І там, дзе дарога знікала,
Над вечнай вадою Дняпра
Стаяў нерухомы Купала.

Кацілася шляхам сваім
Рака —
Як магла,
Як хацела.

Быў страшны Купала —
На ім,

Яшчэ даваенным, жывым,
Святочна
кашуля гарэла.

Хісталіся цені жуды
Сляпымі маланкамі ў змроку...
Адзін толькі крок да вады!

Не зробіць ён гэтага кроку.
Ён скуру здзярэ, як луску,
І рушыць на вольны гасцінец...
Ён пройдзе яшчэ праз Маскву
Па цьмяных прыступках гасцініц.

Ён будзе на сходках начных
Спяваць,

Зратаваных ад кулі
Сяброў абдымаць —
І на іх
Святочна
запальваць кашулі.

Ён будзе!
...Кружыла Зямля.
Храплі на аселіцах коні.

Усё гэта будзе — пасля.
Усё гэта будзе — ніколі.

Пасля — у мальбе і праклёнах.
Ніколі — у спратах віны.

**...Адзін**
**І адзіны**
**З мільёнаў,**
**Адзін і адзіны,**
**спалёны**
**На ростанях смутных**
**Вайны...**

*1982*

* * *

Мне трыццаць. Час настаў такі,
Калі — ні ў вучні, ні ў настаўнікі.

Яшчэ шкалярскі доўг плачу
Купалу,
Танку,
Куляшову,
А ўжо [redacted] Глыбоччыны хлапчук
Прысуднага
чакае слова.
Мой родны!.. Бог табе суддзя.
Суды сабе падобных лепяць.
Якая песня ў лебедзя?
Як лебедзь.

Ах, лебедзяў прыгожа б'юць!
Як выжыць — [redacted] магу параіць.
А вершы пішуць — як жывуць.
Як дыхаюць. Як паміраюць.

Хлапчук маланкі тушыць вейкамі,
Яму здасцца —
ён паэт! —
Што я хаваю тайну нейкую,
Што ў ёй паэзіі сакрэт!

Наросхрыст ён ідзе па вуліцы,
Ён казку ўспамінае вусцішна:
«Пад дубам куфар ёсць, там вуціца,
Не лебедзь — вуціца, а ў той
Яйко з іголкай залатой...»

Галосіць дуб пустымі дуплямі!
Хланчук ледзь пераводзіць дух.
«Пра што і як пісаць?» — ён думае.
...Лягчэй, што думаем удвух.

*1976*

* * *

І больш сяброў — і менш...
Такая справа.
І зойме раптам адзінота дых,
І ты вярнуць хацеў бы нават тых,
Каго вяртаць даўно не маеш права.

Як на слупах пажоўклыя аб'явы,
У памяці размыты рысы іх,
Былых каханых і сяброў былых,
З кім ты дзяліў вясновыя забавы,
З кім быў вясёлы і самотны быў...

Цяпер, бадай, не ўспомніш: як любіў,
Каго любіў? — яны абапал, міма,
Яны праз лёс твой, быццам пілігрымы,
Прайшлі,
ніхто з іх не зірне назад...

Ніхто не скажа, хто ў тым вінаваты,
Што ўсе мы неяк прадчуваем страты,
Але ніяк не пазбягаем страт.

*1972*

* * *

Святкуем дзень сустрэч.
Удвух святкуем. Ціха.
Спявае ў хаце печ
Чырвонай салаўіхай.

З-пад чорнага крыла
Выпырсквае вуголле
Той песні, што прыйшла
Да нашага застолля.

Відаць, яна на раз.
Усё, чаму спявацца,
Згарае ў лепшы час —
І нельга ўратавацца.

Дык што ж рабіць, стары?
Падкінем дроў бярэмя...
Няхай агонь гарыць
І кот на куфры дрэмле.

Не лічачы гадзін,
Давай змарнуем вечар,
І моўчкі пасядзім,
І вып'ем за сустрэчу.

Адну з усіх сустрэч,
Калі ў сусвеце ціха
І толькі ў хаце печ
Спявае салаўіхай...

*1973*

* * *

*Брату*

Цэлы тыдзень ён малюе В. Л. О.,—
То пад сэрцам са стралой,
То пад крыжыкам...
Я кажу яму:
— Малы, не сваволь!
Паглядзі,
ляглі снягі
Белым пыжыкам.
Ты зірні,
якія гульні ў лагу,
Як злятаюць
з гары
лыжы з санкамі!..

А малы мне спадылба:
— Не магу!
Не магу, пакуль яна
З рыжым Санькам...

*1969*

## НЯДЗЕЛЯ

Купі мне самую казачную кнігу.
Купі мне дождж.
Купі мне човен,
Купі маленькую малпу,
Купі гушкалкі
І гэтую крычалку, у якую крычыць
Дзядзька міліцыянер...

Я купіў марожанае,
І гэтага ёй хапіла.

*1970*

## СТАНЦЫЯ ВЫРАТАВАННЯ

### 1

Ляцяць аблокі ў вырай тайны.
Бары над Нёманам маўчаць.
На станцыі выратавання
Матросы спяць.

Матросы спяць магутна, весела;
На сон
　　　прыняўшы на траіх,—
Матросы спяць, як ходзяць з песнямі
У страі.

Матросы спяць. Ім сны не сняцца.
Не пераплыць праз Нёман снам.
І калі трэба ратавацца —
Ратуйся сам.

### 2

Гісторый
　　　вострых і салоненькіх
Здаралася ў жыцці нямала...
Было: хапаўся за саломінку —
Трымала.

...На плёсах лёс гуляе з ломікам.
Матросы спяць і сноў не бачаць.
І круціцца ў віры саломінка
Маёй удачы.

3

Як рукі нашыя сашчэплены!
Нібы замкі.
Салодка адчуваю
шчэлены
І плаўнікі.

Ад усяго і ўсіх свабодныя,
Імкліва, коса
Плывём, на сон ракі падобныя,
У сны матросаў.

Нас хвалі выкінуць наранні,
Як рыб, на бераг...
На станцыі выратавання
Не рыпнуць дзверы.

*1978*

## ГАЛУБІНАЯ ПОШТА

Блакіт галубіных палётаў.
Сінеча настыглай вады.
Адчынены ў восень вароты.
Засыпаны ў лета сляды.

Іржышчам, па колішнім жыце,
Бяжыць басанож дзетвара...
І ўсё-ткі: хто знае — скажыце,
Якая ў сусвеце пара?

Скажыце: куды і навошта —
Над пожняй, над полем пустым —
Гадоў галубіная пошта
Нясе расцярэблены дым?..

*1976*

## НЯМІГА

Высокімі гурбамі
У снежні снягі засінелі...
Якія завеі, любая,
Якія завеі!

Наскрозь праінелі —
Да сонца, да першай адлігі —
Дамы, што ўцалелі
На нітачцы
Чуйнай Нямігі.

Там цесны пакойчык,
Пакінуты намі, забыты...
Цяпер там паўночна —
І дзверы
Цвікамі забіты.

І клямку пакратаць,
Апчэрыўшы пашчу забойцы,
Паўзе экскаватар,
Як прывід
Часоў мезазойскіх...

Там лета шалела.
Спякотнае,
Сумнае лета,

Як жоўты квадрат на шпалерах
На месцы партрэта.

І так рагатала
Каменнае рэха на скронях,
Бы войска вандалаў
Скакала
На ўзмыленых конях...

Завейныя веі...
Пад неба завеі, пад месяц!
Чаму мы не ўмеем
Святочнае
Лашчыць і песціць?

Будзённасць атуліць.
Няміга заб'ецца галінкай.
Там лета было,
Ты адтуль мне
Махаеш хусцінкай.

Хусцінка лунае,
На ветры расстайным трапеча...

Няміга блукае...
Гукае...
Склікае на веча.

*1973*

* * *



Бывае боль гаючы,
Як траў карані...
Крані мяне балюча,
Пякуча крані.

Пра лёс гадаць
не трэба,
Чаму збывацца — збыцца...
Крані мяне, як неба
Кранае бліскавіца.

Дарую ўсё, удзячны,
Што ноччу балявой
Згарэў я —
і гарачы
Хоць попел мой.

*1975*

6 Зак. 2639

* * *

Гляну наперад: страта на страце.
Год застаецца?.. Дзень усяго?
Лёс! Ашчадзі маіх бацьку і маці.
Смерць! Абыдзі іх да часу майго.

Дайце не зведаць мне гэтай пакуты,
Наканаванай на доўгім вяку...
Да тэлефона, як вязень, прыкуты,
Горла сціскаю начному званку.

Неба! Калі непазбежныя страты,
Громам спярша нада мной прагрымі!..

Мама! Даруй мне...
Я слабы стаў, тата...
Неба, малітву маю не прымі!

*1985*

## АБЛАЧЫНКА

Дзесьці ў Крэве, на высокіх могілках,
У буянні руты і гарквы,
У зямлі змаганай, ды не зможанай,
Дзед з бабуляй — тварам да царквы...

Іх жыццё падманамі і звадамі
Праплыло, як месяц па вадзе.
І ляжаць Іван з Алімпіядаю...
Дзе іх душы? Невядома дзе.

У хмурынках тых вунь?.. У тумане?..
На губе крывінку прыкушу...
Як твая душа, мой дзед Іване?
Ці знайшла Алімпіну душу?

Не збалела, крылы не намуліла
Над царквой маўкліваю кружыць?..

Вымытай хусцінкаю бабулінай
Аблачынка сохне на крыжы.

*1976*

## ЛЕСНІЧОЎКА

Прагінае вецер кроквы.
Мёртвы снег пластае дах.
Пуста. Гулка.
Крыкі, крокі
У завеяных палях.

— Мама, хто там?
— Спі. Нікога.

Вецер... Снег...

— Зірні ў акно:
Ваўкалак!
— Пабойся бога!
— Нехта ёсць усё адно!

Крык.
— Ты чула?
— Падалося...

Стрэл.
— Ты чуеш?
— Гром...
— Зімой?
Мама,
Мама, ён галосіць!
— Гэта сцюжа, хлопчык мой.

Кожнай дошкай стогне хата.
Клямка бразгае сама.
— Мама, страшна...
Дзе наш тата?
— Тата ў горадзе...

Зіма.
Пуста. Гулка.
Крыкі. Крокі.
Зноўку стрэл. І крык.
І ціш.
Леснічоўка. Край далёкі.
Шлях далёкі. Снег глыбокі.

Дні.
Гады.
Стагоддзі.
— Спіш?

...Ён заснуў, нібыта згінуў.
Ваўкалак трубіў у рог.

Раніцою вецер кінуў
Шапку бацькі на парог...

*1979*

* * *

Праводзіла з дому...
На ўзмежку бацькоўскага поля:
«Сынок мой...— сказала,—
які ж мне наказ табе даць?
Ніколі не збочваць з дарогі —
зайздросная доля.
Ды хай не міне цябе доля
дарогу губляць.

Хай зведаеш ты
Нежалобную долю блуканняў,
Хай знойдзеш — і знішчыш,
Хай дойдзеш — і кінешся прэч,
Спазнаеш
Сустрэчу
У час спусташальных расстанняў,
Спазнаеш
Расстанне
У час невыносных сустрэч.

Хай страціш ты многа,
Каб долі сапраўднай не страціць».

Ён жыў гэтай доляй.
Кахаў.
Расставаўся.
Блукаў.

Дадому вярнуўся:
«Сынок мой,— спыталася маці,—
Знайшоў ты ці страціў?..»

Заплакаў —
І ў ногі
Упаў.

*1979*

## ХАРЭІ

Што, Валодзька?.. Зноў, здаецца,
З каляіны выбіла...
  Ах, як выбалела сэрца!
  Ах, як выбалела.
Таргаваў на кірмашы
Весела ранетамі...
  Вершаў сумных не пішы,
  Дурань гэтакі.
Ах, зялёным лопнем вод
Вочы дзеўчыны!..
  Не пішы святочных од.
  Сні пра вечнае.
Вам — за вочы і касу —
Яблыкі найлепшыя...
  Рыфмай лозунгі не псуй.
  Смешна.
Пакацілася — трымай! —
Сэрца яблыкам...

  Вось пра гэта і спявай
  Ямбамі.

*1980*

# СТУДНЯ

Сасмяглай рыбай боўтнецца вядро...
Затархаціць пашчэпаная корба...
Адзін глыток — і існуе дабро,
І жыць на свеце хораша і добра.

Абуджан зрок: мільгне птушыны цень...
І слых: у ліпах пчолы зноў шчыруюць...

На жоўты жвір сцякае з рук струмень,
І на вадзе каменьчыкі танцуюць.

*1969*

# ПАШТОЎКА З САРАЕВА

Ля каменя, які апавяшчае,
Што тут якраз, на гэтым самым месцы
Быў некалі забіты Фердынанд,
Той самы Фердынанд, той самы герцаг,
Дакладней, эрц... Чаму, дарэчы, эрц?..
(Даведацца.) Ля каменя таго
Стаіць ружовашчокая аўстрыйка —
Спакусніца, альпійская багіня,
Што стала алімпійскай чэмпіёнкай,
Якую для рэкламнага праспекта
Фатаграфуе клышаногі швед,
Стараючыся, каб відзён быў надпіс
На камені, які апавяшчае,
Што некалі на гэтым самым месцы
Забіты быў... Да каменя ідзе
Ссівелы немец, герцага равеснік,
З ім жонка маладая, у якой
Дзве пары лыж. Яна глядзіць на шведа —
Швед на яе. Смяецца чэмпіёнка,
Іскрыцца снег ля каменя таго,
Дзе некалі... які апавяшчае...
На момант немец прыпыняе жонку
І кажа ёй: «Nicht er der Letzte war».

*1984*

[1] «Не ён апошні» — *(ням.)*.

# АКЫН

Сядзеў панура,
Згорблена,
І раптам — песня горлам.

Скакаў табун, таптаў палын,
Шакалы вылі следам.
Ніхто не ведаў —
Што акын.
Ды ён і сам не ведаў.

Свістала і хрыпела
Жалоба і нуда,
Як з крана з'іржавелага
Гарбатая вада.

Нібы замоваю лячыў,
Спяваў.
Пра ўсё.
Нічога.
Была
За песняй
Далячынь.
Пустэча.
Стэп.
Дарога.

Турысты пырскалі:
— Выццё...
— Саліст ансамбля «Пенсія».

Адна дамбра. Адно жыццё.
I смерць адна. I песня.

*1980*

## АРМЕНІЯ

Круты абрыс біблейскіх гор.
Зарніц спалохі...
Над Арменіяй
Сусветнае
Знішчэнне
Зор...
А зор не менее.

Закон
Ахоўвае матэрыю.
А кроў святла
на спад
лавінаю,
Як перарэзалі артэрыі
Над Арарацкаю далінаю.

У коп'ях неба
І ў мячах —
Пектаграфічны запіс эпасу.
Дух вояў-продкаў не ачах! —
Пад пацінаю
на шчытах
Арэс і Эрас.

Не вынішчаецца любоў...

Зноў небасхіл, як выраб Палеха.
І слоў не менее
Ад слоў,
У горне ночы ў попел спаленых.

Як доказ іх магічнай сілы
З-за Крабавіднае туманнасці
Глядзяць на люлькі і магілы
Ґустыя вочы Туманяна.

*1980*

## СКРЫПКА МАЦІАША

Іграй нам, Маціаш, іграй.
Не так, як заплацілі грошы,
А так, як ветрам ліст палошча,
Шпачыных спеваў поўны гай.

Над качарэжкамі галоў,
Над гаманой косназыкай —
Не трэба нам вялікіх слоў,
Даволі музыкі вялікай.

Хай твая скрыпка —
часу ўзбоч —
Вядзьмуе
дамаю піковаю...
Са мной такая чарнабровая,
Што пада мной святлее ноч.

Як абдымае — не пытай.
Іграй нам, Маціаш, іграй.

Не замірай
на тонкай той,
Шчымлівай той,
дзе слёзы просяцца...
Такая ў свеце безгалосіца —
Лепш пакаранне нематой.

Ты нематою не карай,
Іграй нам, Мацівш, іграй.

Ну што
грашыма шапацець!
Панакуплялі за валюту
Святых, што пазіраюць люта,
Крыжоў пазелянелых медзь.

Цяпер і музыку купіць
Прыйшлі на рэшту —
ды музы́ка
Ад струн не адрывае смыка,
Не купіш тое, што гучыць!

Не хопіць золата на рай.
Іграй нам, Мацівш, іграй.

Іграй нам —
рукі чарнабровай
Па шчоках рэкамі цякуць,
Іграй —
прасторам чабаровым
Праз дым і чад я змог дыхнуць.

Ужо ўва мне ўвесь свет шырокі,
Рык горада, мальба сяла...

Пайшла Еўропа
рукі ў бокі,
У скокі Азія пайшла!

Хто зможа паяднаць людзей,
Даць веру ім і даць надзею?..

Іграй,
Іграй жа, чарадзей,
Дай божа сілы чарадзею!

Хай не змаўкае скрыпкі спеў
Да той хвіліны прасвятлення,
Калі здаецца: ты паспеў
На душ людскіх перасяленне,

Калі нябёсы, як званы,
Гудуць святочна, і,
зні-
ка-
ю-
чы,
Ты абдымаеш шар зямны,
Мадзьяркі плечы абдымаючы...

*1977*

* * *

Руіны замка.
Дзікая зямля.
Ды чэзлыя наўкол кусты шыпшыны.
А на сцяне ўцалелай —
твар жанчыны,
Наложніцы былога караля.

Была яна наложніцай ці не,
Ды ўладара ўзяла ў палон красою —
Ён загадаў лічыць яе святою
І ўвекавечыць
На глухой сцяне.

Свавольны быў кароль той,
як дзіця.
Не ведаў межаў шчодрасці і злосці...

Даўно струхнелі ўладаровы косці
Пад чэзлымі шыпшынамі жыцця.
Імя яго забыта ў тых краях,
Дзе ён сваволіў і хадзіў вайною
На ўсіх суседзяў,
Каб агнём,
Маною
Пакору аднаўляць у іх
І страх...

Ды не астыў
                    вачэй блакітны вар
Жанчыны той! —
Ліецца на абшары...

І свеціцца
Тугой былых пажараў
Драпежна-вольны
Палачанскі твар.

*1979*

## ЧЭЦІ

Валілася неба на вышчапы гор,
Апошнія зоры страсаючы ў зморы.
А сонца ўставала, нібыта сабор.
Званілі ў саборы.

У Чэці ў мячэці маліўся стары...
На твары — адчаю кінжальная мета.

«Алах! Магамет не прыйшоў да гары —
Гара пракляла Магамета.
Алах, я сівы ўжо...
Я хутка памру.
Прашу на мяжы твайго вечнага царства:
Алах, пакарай за бунтарства гару!
Алах! Магамету даруй за бунтарства...»

Ён гэту малітву тварыў да пары,
Пакуль не сабраліся хмары над светам...

Грамніца
              слізнула
                        на вышчап гары —
Лавіна
Раструшчыла
Дом Магамета...

*1980*

# НА КАТЭРЫ «ГРОЗНЫ»

На Волга-Балтыйскім канале
Замерзлая чайка
Канала.

Ну што там, здавалася б...
Птушкі
Штодзённа канаюць
                                        і гінуць,
Бы супрацьптушыныя міны
Птушынае дрэва цярушаць.

І гэтая птушка не лепшая,
З усіх нашых птушак не першая.

Адкрыліла,
                    колькі паспела,
Вяслуе крылом набалелым,
Знікаючы ў хвалі за катэрам,
Як з ніткі сарваная пацерка.

Самкнулася нема вада.
Ну што там, дальбог, за бяда!

Ды раптам —
                        бы выбухнуў кратэр! —
Хіснуўся і ўздыбіўся катэр,

Сінечай
Марознае
Сталі
        гарматныя
        рулі
        паўсталі,
І падалі з неба, як грушы,
Птушыныя вечныя душы!

*1981*

## ПЫЛ ДАРОГ

Ці пясок залаты ён, ці смецце —
Пыл дарог, што круцілі па свеце?..
Мітусня!
Вызваляюся.
Вецер
Лёг ля брамы ў нядрэмны дазор,
Як сабака.

Бы сховы разор,
Дні спусцелыя...
І на дасвецці
Вызваляецца неба ад зор.

*1984*

## РУБЕЖ

Направа залева,
Налева залева,
Матор «Масквіча» ліхаманка заела —
Давай, ну давай, калымага старая!..
Нутро выгарае.
Нутро выгарае...
Патопныя воды
на шкло ветравое;
Дарога назад —
Да шумераў? да Троі?
Дарога наперад —
Да пекла? да раю?
Давай, ну давай, калымага!.. Стараю-
чыся з усіх сіл, перагрэты,
Ляцеў «масквічок» мой па ўскрайку планеты,
Спірала дыханне на страшнай спіралі,
Дзве сілы —
Крыж-накрыж — сусвет распіралі:
Круціліся ў бездані левыя колы —
На правых
праколы!
На правых
праколы!
І покуль машыну завальвала ўлева,
Я бачыў, як справа святлела залева,
Хіліліся горы, і слаліся травы

Направа, направа, направа, направа,—
Дзе вечарам вецер патупвае ў сенцах,
Шалее салоўка на шостым каленцы,
Званамі аглухлымі падаюць бэры
На попел цяпельца любові і веры,
Дзе пахне атаваю луг за ракою,
Дзе мама насустрач махае рукою
І з ціхай надзеяй пытае пра справы...
Завальвае ўлева!
Аблокі — направа,
Направа звяры ўсе, і рыбы, і гады,
Мой снежань направа, мае лістапады.
Направа ўзлятаюць —
Ілона і Ева —
Дзве птушкі
                    з галін радаслоўнага дрэва,
Направа — сілкамі пакоры і гневу —
Усё, што я ўспомніў, зірнуўшы налева
У зорную прорву,
                              дзе вечнасць клубіцца,
Дзе некалі сон гэты будзе мне сніцца...

*1982*

* * *

Жанчына...
Каханая ўстала над цёмнай ракой.
Жанчына...
Каханая доўга глядзела ў ваду.

На поплаве дальнім
Я потым русалку знайду,
Русалчыны вочы закрыю спакойнай рукой.

Пасля я — асляплы — па беразе
Буду
Ісці.
І будуць дзве чорных гадзюкі
За мною
Паўзці.
Дагоніць адна з іх —
Ударыць маланкаю лютай.
Дагоніць другая —
І высмакча [redacted] раны атруту.

*1979*

## СУСТРЭЧА

...Як зрэз на дрэве, набрынялы сокам
Цяжкім, што кроў...
«Мой ясны сокал!
Мой высокі сокал!»
А галубы ляцелі з рукавоў,
І зіхацелі пацалункі ў дзюбах —
Пярсцёнкі залатыя вуснаў любых.
Накормлены —
                    брывом не зварухнуць! —
На спіны галубятнікі валіліся...
А я не мог бязбоязна дыхнуць
Паветрам тым, што ля цябе свяцілася.
Той дождж, што пырскаў у тваю далонь,
Я піў набожна, як ваду святую,
І як паганцы верылі ў агонь,
Паверыў цёмна ў навальніцу тую,
Калі з-за хмар, бы ў меднае вядро,
Грамы шпурлялі за ядром ядро,
І мы ўдваіх лавілі ўратавана
Маланкі асляпляльнае пяро,
Бліскучы меч Ізольды і Трыстана!
— ...Дык што ж той меч?
— Ступеў ва ўжытку хатнім...
— А галубы?..
— Жывуць на галубятні.

*1978*

## ГЛУСК

Скарыцца
І легчы пад коламі часу...
Няўжо самагубства?!
Прытупвае эра жалезным абцасам,
Я з ёю — сам-насам,
І кожны — сам-насам...

Паэзія — глупства.
Запрэгчы Пегаса,
Паехаць ад голага глупства
Да горада Глуска.
У Глуску
Нахілена неба,
як зрэзана з бохана луста.
П'ю піва
І соль рассыпаю з талеркі шчарбатай...
А час — вочы ў вочы!
Нібы перад ім вінаваты я,
Скрозь вінаваты...

Якою віхурай
Мяне падхапіла,
З каранямі вырвала?!
Ляцяць мае думкі
Асляплым, разгубленым выраем
Да нейкае зоркі забытай,

Маўклівай, як пошта без сувязі,
Дзе цесна і душна,
нібыта
Зашпілена неба на гузікі.

О, як беспрытульна ў сусвеце!
Знянацку.
Раптоўна.
Плыве над зямлёй беспрытульнай
Беспрытульная поўня.
Па вуліцах
Глуска
Снуюць
Беспрытульна
Кіборгі?!.

Буфетчыца лаецца...
Значыць, да гэтага доўга.

Плачу́ я буфетчыцы,
Пла́чу ў замурзаны сачык...
А потым
На рэшту
Купляю вясёлкавы мячык,
Дзіцячую цацку...
Якая душа ў яго лёгкая!
Я пла́чу — ён скача,
Я пла́чу —
ён скача-падскоквае...

*1973*

* * *

Горкім дымам пацягне
Ад барвова-чырвонага лісця,
Ад асенняга...
Больш не асенняга...
Хто па смерці нам скажа,
З якой ён знікае пары?
Адчуваецца ў дыме пах адмерлай кары
І сапрэлага сена,—
Гэта новы наш дворнік
парадак завёў,
Каб запальваць кастры...

І яшчэ абяцаў ён у нашым двары перамены.

*1972*

* * *

Брат, забывай, што малады
Па бальшаку скакаў найперш.
Твае крылатыя сляды
Затопчуць пешыя.

На свяце ліпеня шыкуй,
Ды чуй ад студзеня,
Здалёку:
Дарога не па бальшаку.
Дарога збоку.

Яна вядзе цябе за край
Звычайных змен святла і цемры.
Ты вобмацкам яе шукай —
Дарогу веры.

Не гніся! Лінію дабра
Направа выгнуць ці налева —
Нібы з Адамава рабра
Выточваць пацеркі для Евы.

І выняньчаць цябе
Рака,
Ігліца,
Дзьмухавец і рута,
Калі ты пылам бальшака
Дыхнуў атрутна.

*1981*

* * *

*Міколу Сідаровічу*

На берагах гадоў,
Што гаснуць, быццам гукі,
Люблю вітаць сяброў
І паціскаць ім рукі.

Шчаслівы тым, што ў час,
І светлы, і завейны,
Знаходзіў іх не раз,
Нездрадлівых, надзейных.

За гэта рэштай слоў
Не разлічыцца з лёсам...
Сумую без сяброў
Крывёю безгалосай.

*1975*

* * *

Паедзем у Цхіву, Карын...
У Цхіву, лазой вінаграднай спавітую,
У Цхіву, дзе сонца,
Нібы мандарын,
Салодкае і сакавітае,
Паедзем, Карын!
Нас чакае сястра —
Тапалька,
Тугою касой,
Бы лазой вінаграднай,
Павітая.
Як добра было з ёй сядзець ля кастра
І слухаць размову,
Дзе нашыя словы
З грузінскімі зблытаны.
Паедзем, Карын...
Брату нельга сястру забываць,
І мне з ёй сустрэцца — душа набалела.
Сумую, Карын...
І хачу паўтараць:
Натэлла... Натэлла... Натэлла...
Паедзем у Цхіву, Карын...

*1975*

## ГАЙ

1

Пра што шапочаш, гай,
Празрысты, вераснёвы?..
Пара спраўляць абновы.
Чакай мяне. Чакай.

Жывыя мы з табой.
Звычайная падзея.
Адкружыць лістабой,
І снегавей адвее.

Накінеш на плячо
Зялёны шоўк маёвы.
Вясёлае дзяўчо
Гукнеш сакрэтным словам.

Не сцерпіць, прыбяжыць,
Прытуліцца травінкай...
Ах, жыць ды не тужыць,
Не выпускаць з абдымкаў!

Не паслабляць вузлы,
Што пальцы паспляталі!..

Жытнёвыя вазы
На ток пашыбавалі.

2

За гаем зноў пачаўся гай.
Не ўспомню, што было да гаю.
Усё наперад забягаю
Сабе самому...
А, няхай!
Дальбог, нічога не шкада.
Бывае вось пара такая,
Калі жывеш, нібы сцякае
З палёў напоеных вада.
Што́ знаць, куды яна цячэ,—
Гадаць, куды бяжыць дарога!..
Ніхто на свеце на ўцячэ
Ад лёсу, ад сябе самога.
І мне з самім сабою жыць,
Які ўжо ёсць я, дзе тут дзецца...
Жыць, як шчасліваае смяецца,
Жыць, як балючае баліць.

*1977*

* * *

Не дазволь пайсці мне... Затрымай...
Рукі на грудзях скрыжуй стамлёна...
Хай сабе не варты я праклёну —
Праклінай.

Праклінай, галосячы пра страты,
Адзіноту, здраду і тугу.
Не магу я
Быць
Не вінаватым!
Чуеш, не магу.

У імя няўмольнага расстання —
Над бяздоннем,
На апошнім дні —
Не карай мяне ўсёдараваннем!
Злітуйся...
Даруй мне...
Пракляні...

*1980*

* * *

У доме насупраць мыла жанчына акно.
Мокрае сонца ў шкле зіхатлівым дымілася.
Ён падышоў. Яна да яго прыхілілася.
У доме насупраць мыла жанчына акно.

Больш у той дзень
                    анічога ў мяне не здарылася.

*1971*

## ТАЛІН

Невыразнае жаданне
Лета.
Ластавак.
Вяртання.
Лесвіцаю
успамінаў
З нізкіх долаў успамінаў.
Гнёзды свецяцца ў байніцах.
Проста ўсё, што ў таямніцы.
Толькі ты — бы ўзмах крыла,
І яна — бы ўзмах крыла!..
Толькі снежань з-пад крыла —
Ды на снезе след расталы...
Недзе музыка была.
Вось і музыкі не стала.
Выстыў Талін. След змяло.
Толькі што было — было.
Там, з Вышгорада,
З апетай
Даўняй вежы
Ценем лета
Ценькне
Ластаўкі крыло...
Дзень — святло,
І ноч — святло.

*1972*

## СНЯГІ

•

У госці прыходзяць снягі
Не шумным застоллем,
Зацішшам,
Асветленых думак узвышшам
На цёмных раўнінах тугі.

Снягі —
успаміны: чаму,
Пра што сумавалася ўчора,
Якое ўяўлялася гора
Зацішнаму сэрцу майму?

Снягі —
над усёй мітуснёй
Даснежных маіх лістападаў,
Як вырай высокі пад садам,
Дзе дрэвы пасаджаны мной.

Снягі —
каб напоўніцца зноў
Душы маёй сумам і смехам,
Усім, што было да снягоў
І не засталося пад снегам.

*1973*

## ДЭЛЬФІНСКАЕ

•

*Памяці С. Кірсанава*

Паэт
Сядзеў за столікам, курыў.
Сівыя валасы стаялі стрэшкай.
Кагосьці быў ён прывітаў з усмешкай.
Сядзеў...
Курыў...
Вітаў кагосьці...
Быў...

Плылі, што поўні,
Да сталоў талеркі,
І цёк, як над вулканам,
Душны дым.
І людзі адбіваліся ў люстэрках —
Адзін...
Другі...
Адзін перад адным...

Паэт сядзеў за столікам, курыў,
Штось гаварыў, што быў казаць павінны.
А ў гэты час блакітныя дэльфіны
Плылі ў Басфорскі месячны праліў.

З-пад плаўнікоў
Да зор ляцелі пырскі,
І малаком кіпеў у хвалях след.
— Ты размаўляць умееш па-дэльфінску? —
Спытаў паэт...

Была ўжо ноч.
Па сцішанай Маскве
Плылі праз дождж дэльфінамі машыны.
Паэт хаваў запалку ў рукаве,
Шукаў манету і званіў жанчыне.

Над тэлефоннай будкай цвіў ліхтар.
Узмахваў клён намоклаю чупрынай.
А ў гэты час блакітныя дэльфіны
Пераплывалі сіні Гібралтар.

І недзе ля Астанкінскіх ставоў
Сярод садоў
ужо капала лета...
Паэт званіў...—
На шэпт дэльфінскіх слоў
Перакладаў жанчыне гул планеты.

*1975*

8 Зак. 2639

* * *

Ты хмаркаю плыла...
Высока...
Не дастаць...
Свяцілася ледзь-ледзь
Над рэчкай і над борам.
Ад слоў маіх плыла,
што я сказаў учора —
Да слоў маіх плыла,
што заўтра меў сказаць.

Ты хмаркаю плыла...
Над поўняй...
Над зямлёй...
Між вокладкамі дзён
Наступных і мінулых
Мы дзіўную з табой
старонку адгарнулі:
«Дзень вашай цішыні» —
напісана на ёй.

*1974*

* * *

Сцішэла.
З велічных вышынь
Сышлі хмарыны снегавыя.
Што́ мы з табою?.. Як ні кінь —
Дзве лініі берагавыя.

Над стромамі ракі ў снягах
Здаецца: берагі самкнёны.
Нашто ж (для самаабароны?)
Лязо расколінкі ў вачах?

О лістабой! Грымі трубой!
Не дай на свет зірнуць цвяроза.
Сцішэе — і чуваць пагроза
Жаданай еднасці людской...

Я зведаў, шлях прайшоўшы свой
Расчараванняў цёмнай пушчай:
Дабро — абняць рукой сляпой,
Бяда — караць рукой відушчай.

І я люляю на плячы
Твае далоні дарагія,
Каб хоць на ноч (маўчы... маўчы...)
Лязо расколінкі (маўчы...)
Упала кладачкай (маўчы...)
На лініі берагавыя.

*1977*

* * *

Скончылася лета... Не сумуй!
Звыклаю хадою час прастуе.
Ад спакою ён цябе ўратуе,
Ад самоты — сам сябе ратуй.

Не сумуй... Яшчэ ў тваіх гадах
Верасень — не першая прыкмета...
Падаюць антонаўкі ў садах.
Скончылася, скончылася лета!

Вывесілі жоўтыя сцягі,
Высахлым бульбоўнікам канае...
Не сумуй!.. Шырэй за берагі
Рэчак не бывае.

Прызвычайся рэчышчам цячы
І,
Імгненнем будучым багаты,
Страчанае
                стратай не лічы.
Шчаслівы будзь, што меў такія страты.

*1978*



Праплыў перон і знік.
І колы зачасцілі.
Дрымотны праваднік
Разносіць чай астылы.
Салдат... Жанчына... Дзед...
Дзяўчынка (ў сёмым класе).
Ніяк не ўспомню, дзе
Я з імі сустракаўся.
Калышацца вагон
Чаёва, вечарова...
Шануй дарожны сон
Да станцыі чарговай.
Пацягне скразняком...
Жалеза праляскоча...
Махне нам дзед кійком,
Па цаліку пакроча.
Запорхае за ім
Дзяўчынка, як сняжынка...
Спячэ з адхону дым —
І захіне сцяжынку.

*1980*

## ЧУЖАЯ СТАНЦЫЯ

Гэта станцыя чужая,
Гэты горад мне чужы.
Хто ж праз ноч мяне гукае:
«Любы мой, дапамажы!
Любы мой, мой невядомы...»
Над аціхлаю зямлёй
Голас плыў, амаль знаёмы,
Знаны, ды забыты мной.
«Любы...» Памяці прагалы.
«Любы...» Што ў былым, збяры:
Выпадковыя вакзалы.
Выпадковыя сябры.
Дык адкуль жа ён, таемны,
Знаны, ды забыты мной,
Над маім жыццём дарэмным —
Голас станцыі чужой?
«Любы мой...»
Вось-вось сарвецца,
Змоўкне рэхам у вушах,
І яму не адгукнецца
Аніводная душа!
Аніводная з мільёнаў
Чалавечых, родных душ!..
І разгублены, здзіўлёны
Абарваўся голас...
Руш!

Руш мой быт уладкаваны,
Як навала, як вайна,
Голас станцыі нязнанай,
Дзе крычыць
мая віна.

*1978*

* * *

Прызнаць віну, якой не варты вы,—
Адчэпка толькі для суда людскога...

Калі душа, як за сцяной астрога,
І сочыш ты за ёй, як вартавы,—
Не абвяшчай: я вінаваты ў тым,
Што ёсць мана, што пыл яе і дым
Твар праўды захінае, як аблога.
Не словамі, а справай пачынай:
Астрог паруш — і ў сэрцы паламай
Нож асцярогі, зброю вартавога.

*1981*

# У САДЗЕ НАД РАКОЙ

Несупадзенне дат.
Несупадзенне вех.
Вяртаецца назад
Даўно забыты снег.
Узняў забыты дождж
Блакітнае крыло.

Усё было — і ўсё ж,
Што будзе — не было.
І ў садзе над ракой,
Чырвоным ад калін,
Пружынай
Пад рукой
Напружанне галін.
Галінку адпушчу —
Мільгне за далягляд,
І вернецца назад,
І вернецца назад.

*1981*

* * *

У пару лістапада,
                    калі загарацца лясы
І гарэць —
Не згараюць, а толькі прасторна святлеюць,
Недарэчнай здаецца
                    самотная зелень сасны,
І шкада гэтых дрэў,
Што не могуць згараць і не ўмеюць.

Але ў снежні,
Калі
Голым веццем бярозы звіняць,
Разумееш, якім
                    недарэчным было шкадаванне:
У знямеласці белай
Спакойныя сосны гараць,
І на вечны агонь іх
                    да новай вясны спадзяванне.

*1969*

## ПЫТАННЕ

Дні рассыпаць, як той мак на стале,
Байкамі бавіцца...
Толькі аднойчы яно паўстае:
Што адбываецца?

Страчана. крэўнасці. ніць. між людзьмі.
Так яно лепей.
Так яно лепей?
Светла ў сусвеце. А свечку задзьмі —
Цемра аблепіць.

Што ж адбываецца з намі і ў нас?..
Быццам не знаеш!..

Знаеш: пытанне вышэй за адказ,
Скочыш —
                і шыю зламаеш.

*1985*

## АДКАЗ

І запытаўся ён пасля ўсяго:
«Калі жывеш ты, то ў імя чаго?»

І засмяяўся я: «Цяпер якраз
Не адкажу, бо ведаю адказ».

*1985*

## АПОШНІ ВЕРШ

Хай будзе жыццё! Гэта ноша па мне!
Па мне гэта доля сустрэч і расстанняў.
Я ведаю: займецца хутка ў акне
Апошні світанак майго існавання.

Ну што ж, гэта ноша таксама па мне.
Спакойна змяняю я
долю на волю —
І толькі хіснуся, як цень на сцяне,
І толькі на момант хаду запаволю...

*1979*

## ДАВЕДКА АБ НАРАДЖЭННІ

### Судовая справа

1

Год пасляваенны. Год работны.
Шчэ з руін не выветрыўся дым,
А на танцах, звыклыя да поту,
Кірзачы і хромавыя боты
Рэжуць полькі
крокам страявым.
Год надзейны. Год пасляваенны.
Шчэ падлікі страт не паіменныя —
І маўчаць хатынскія званы,
І да мёртвых —
літара за літарай
З плачам, галашэннямі, малітвамі —
Пісьмы йдуць
На той канец
Вайны.

Год пасляваенны. Год гаротны.
Шчэ жыццё паўзводнае, паротнае,
Хлеб па картках і па картках соль,
І людзей — хоць ёсць таварыш Сталін,
Хоць перамаглі і адстаялі —
Аніяк не адпускае боль.

Ён — нібы пад рэйкамі ўзрыўчатка.

2

Касавіца.
Ліпень напачатку.
Не да святаў. Хутка час жніву.
Старшыня пахукаў на пячатку,
Пляснуў па даведцы —
І жыву.

Першы сорт. Пасляваенны выраб.
Чым прырода апраўдала выбар:
Быць
альбо не быць мне на зямлі?
Як неверагодны выйгрыш выпаў?
Бацьку
Снайпер выбіваў — не выбіў,
Маці ў роў вялі — не давялі.

Вось з вайной
мая прамая сувязь,
Лёсаў і крыві густая сумесь,
Што праз марлю год
не працадзіць.
Памяццю сваёй
Я не свабодны:
Сутыкненне нацый і народаў
Вырашала —
быць мне ці не быць.

А душа мая
Шукала цела.

3

Быць хацела! Дыхаць ува мне!
Ля траншэй цвіла рамонкам кволенькім,
Каля дотаў стракатала конікам...—
Не! —

Новенькі,
Бліскучы,
З меткай «супер»,
Не з'явіўся — выжыў я насуперак
Вайне.

На прамежжы
Азіі з Еўропай
Як хачу
свячу ружовай попай,
Знаць не знаю пра сваё жыццё,
Крэўны сын
Някляева Пракопа,
Стасі Магер
Роднае дзіцё.

4

Трое нас.
Ніводны не забіты.

5

Сорак шосты.
Даспявае жыта.
Час вялікіх спраў —
не да малых!..

Нават чарку кінуў недапітай
Старшыня на хрэсьбінах маіх.

Старшыня — начальнік адмысловы.
Франтавік.
Герой.
Гвардзеец.
Франт.
Казыраў ён нетутэйшым словам
«Факт» —
І парыпваў кабурою новай,
Медалямі, слепячы, звінеў...

Ён сказаў на хрэсьбінах прамову.
Вось што я з прамовы зразумеў:

Факт,
Што набірае моц Радзіма.
Факт,
Што ў нашых ворагаў інфаркт.
Факт,
Што жыта сёлета ўрадзіла.
Нарадзіўся я — таксама
Факт.

Факт яшчэ, што банда паліцаяў
Недабіта ў Суцькаўскім бары...

«Ды пра паліцаяў — абяцаю»,—
Шчоўкнуў старшыня па кабуры.

Той парою
Шчоўкалі заўзята...

6

Ноччу бралі Кабянка Ігната,
Першага бандыта на раён.
Узялі. Вяскоўцам паказалі.
— Ён? — спыталі.
— Гэты,— адказалі.
А сівы Стапуль сказаў:
— Не ён.

7

Трох красунь-нявестак Стапулёвых
На суках таполевых, вясновых
Весела
Ігнат павесіў быў:
Першую —
бо мела кроў чужую,
Бо хавала першую —
другую,
Трэцюю...—
Бо троіцу любіў.

З імі побач, на суках кляновых
Трох сыноў-асілкаў Стапулёвых
Кабянкова банда падняла:
Першага — бо выкраў вартавога,
Бо не выдаў першага —
другога,
Трэцяга...—
Каб троіца была.

Тры начы і дні гайдаў іх вецер...

8

Ці на вецці ружавее квецень,
Ці лісты асеннія ляцяць,—
Гэтыя тры клёны,
Тры таполі
Дзень і ноч на Стапулёвым полі
Шэпчуцца,
Калышуцца,
Шумяць.

9

А Стапуль сваё:
— Не ён. Не гэты.

10

Сорак шосты.
На зыходзе лета.
Сад. Калыска. Вечар.

Ля вулля
Падаюць самлелыя ранеты.

Роіцца натоўп ля сельсавета.
Суд сягоння.
Судзяць Стапуля.

Суд у фрэнчах.
Хросны мой за сведку.
Ён суду паказвае даведку.
З дзірачкай ад кулі на ражку.
Холадна ў прасцяг глядзіць ахова.
Кожнае тут сказанае слова
З хаты ў хату йдзе па ланцужку.

11

## СУД

### Пратакольны запіс

Хросны (то запнецца, то саб'ецца): [1]
— Па законах новых, па савецкіх
Я панёс малога ў сальсавет.

Голас

Мог і без малога.

Хросны

Дык не ведаў.
Думаў, як хрысціць...

[1] Заўвага судовага сакратара.

Суд

Адзін?

Хросны

З суседам.

Суд

Стась Стапуль сваяк вам?

Хросны

Так, сусед.

Суд

Дык сусед або сваяк?

Голас

Суседзі.

Хросны

Старшыні няма.
«Чакайце, едзе...»
А ў мяне і час быў, як знарок.
Ну, сядзім.
Чакаем. Словы доім...

Суд

Што?

Хросны

Гамонім. Уваходзяць двое:
Старшыня і гэны...
Кабянок.

С у д

Без канвою?

Х р о с н ы

Той пасля заскочыў.
Старшыня счарнелы — нават вочы
Быццам з галавешкамі на дне.
Кажа: «Факт. Пазналі гада дома».
Я кажу: «Дык чалавек вядомы».
А Стапуль як ёсць упёрся:
«Не».
Старшыня ўдыбкі — і на старога:
«Пакажы мне Кабянка другога!
Ворага шкадуеш, маць тваю!..»

С у д

Далікатней...
Тут жанчыны, дзеці.

С т а п у л ь

Прызнаю ўсё існае на свеце.
У звярах людзей не прызнаю.

Х р о с н ы

От, сказаў ён так — і я паверыў.

С у д

Дзе Стапуль сякеру ўзяў?

Х р о с н ы

Сякеру?..
Каля печы, мусіць... Каля дроў.

Голас

Сам прынёс!
Якія летам дровы!

Хросны

Кабянок жа гэны — звер здаровы.

Стапуль

Без сякеры нельга ля звяроў.

Суд

Так. Далей?

Хросны

Ён кінуўся на Гната.

Суд

Хто?

Хросны

Стапуль.

Суд

А вы?

Хросны

Я вінаваты.
За руку схапіў:
«Чакай, сусед!»
Старшыня адразу з пісталетам.

Кабянок — убок, і скок... і гэта:
Выбіў старшынёвы пісталет.

З крыку і дзіця загаласіла.
Кабянок, нячыстая ён сіла,
Цэліцца ў яго:
«Хто зробіць крок...»
Я яму: «Ігнат, пабойся бога...»
Старшыня загарадзіў малога.
Кабянок націснуў на курок.

І тады Стапуль яго
сякерай...

Тут ужо набеглі...
Насцеж дзверы...
Выскачыў з малым я — ледзь стаю...

Стапуль

Вінаваты ў старшынёвай смерці...
Прызнаю ўсё існае на свеце.
У звярах людзей
Не прызнаю.

Голас

А даведка?

Хроспы

Ды была гатова:
Вось, знайшлі ў кішэні старшынёвай...
Нічыёй паперка стала б, каб...

12

Мне даведку тую не вярнулі;
Падшывалі —
Шчэ адну праткнулі
Дзірачку,
                такую ж, як ад кулі,
Там якраз, дзе прыназоўнік «аб».

13

Зноў шумяць
Тры клёны,
Тры таполі.
Зноў бяда на Стапулёвым полі.
Хата ссірацелая гарыць.
Год пасляваенны. Год суровы.
Шэпча вёска Стапулёвы словы.
Я яшчэ вучуся гаварыць.

Я пакуль не ведаю, што лёсам
Звязаны з сусветам,
Што за лесам
Столькі вышыні і шырыні,
І што ўсім
                жыццю я абавязаны,
А яно, як сноп той, перавязана
Перавяслам лёсу старшыні.

...Я аднойчы ўстану сярод ночы
І зусім спакойна гляну ў вочы
Горкай,
перакручанай,
сірочай
Стапулёвай праўдзе. І мане.
А пакуль жыву, нібы ў разведцы:
Кабянок скрозь дзірачку ў даведцы
З пісталета цэліцца ў мяне.

*1978—1979*

# БІЯГРАФІЧНАЯ ДАВЕДКА

Уладзімір Някляеў нарадзіўся 11 ліпеня 1946 года ў горадзе Смаргонь на Гродзеншчыне. У 1966 годзе скончыў Мінскі электратэхнікум сувязі. Працаваў некаторы час на Далёкім Усходзе, у Сібіры, на Поўначы, потым — у Мінскім радыётэлевізійным атэлье. Вучыўся на аддзяленні паэзіі ў Літаратурным інстытуце імя М. Горкага.

У 1973 годзе скончыў Мінскі педагагічны інстытут імя А. М. Горкага. Супрацоўнічаў у рэдакцыях рэспубліканскіх газет, працаваў рэдактарам бюлетэня «Тэатральны Мінск», рэдактарам Беларускага тэлебачання. Член КПСС.

Першыя вершы былі надрукаваны ў 1970 годзе ў газеце «Знамя юности».

Выйшлі кнігі паэзіі Уладзіміра Някляева: «Адкрыццё» (1976), «Вынаходцы вятроў» (1979), «Знак аховы» (1983), «Наскрозь» (1985).

У перакладзе на рускую мову ў Маскве выдадзены кнігі вершаў «Сад на перекрестке» (1979 г., у калектыўным зборніку) і «Местное время» (1983).

Асобныя вершы паэта перакладаліся на англійскую, нямецкую, іспанскую, французскую, польскую, балгарскую і на мовы народаў СССР.

На вершы Уладзіміра Някляева напісана шэраг папулярных песень, аўтары музыкі якіх У. Буднік, Я. Глебаў, Э. Зарыцкі, Л. Захлеўны, В. Іваноў, І. Лучанок, В. Раінчык, Э. Ханок і іншыя беларускія кампазітары.

Уладзімір Някляеў — лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола.

Жыве і працуе ў Мінску.

**ЗМЕСТ**

Космас 5
У яблыкі 6
*** Што за сумныя песні!.. 8
*** Аднавяскоўцы мае... 9
Рэйсавы аўтобус 11
9 Мая 14
Кажух 15
Вадэвіль у двух актах 18
Вынаходцы вятроў 20
Паўднёвая Поўнач 21
Семя 24
Пакінуты бераг 25
Просьба 26
*** Не з першага крыку... 27
*** Дзе голаў прытулю... 28
*** На радасць, на радасць, на радасць... 29
З Бадлера 30
Кевалач 31
Сітуацыя 33
Дубоўка 34
Герніка 36
Куліна 37
*** Выйшаў. Хіснулася поле... 39
*** Загаманілі, загрукалі колы... 40
Хадок 42
*** Пералётная птушка зламала крыло аб драты... 44
Лінія лёсу 45
Мост Шандара Пецёфі 47
Перавал 49
*** Уступаю ў пару лістапада... 51
Перад табой 54

Разрыў 55
Спадарожная 56
Жаўна 57
Перачытваючы Багдановіча 59
Роднае 60
Бяроза болю 61
Гарманіст 64
Воблака над школай 66
Ляўкі 67
*** Мне трыццаць. Час настаў такі... 70
*** І больш сяброў — і менш... 72
*** Святкуем дзень сустрэч... 73
*** Цэлы тыдзень ён малюе В. Л. О.... 74
Нядзеля 75
Станцыя выратавання 76
Галубіная пошта 78
Няміга 79
*** Бывае боль гаючы... 81
*** Гляну наперад: страта на страце... 82
Аблачынка 83
Леснічоўка 84
*** Праводзіла з дому... 86
Харэі 88
Студня 89
Паштоўка з Сараева 90
Акын 91
Арменія 93
Скрыпка Маціаша 95
*** Руіны замка... 98
Чэці 100
На катэры «Грозны» 101
Пыл дарог 103
Рубеж 104
*** Жанчына... 106
Сустрэча 107
Глуск 108
*** Горкім дымам пацягне... 110
*** Брат, забывай, што малады... 111

*** На берагах гадоў... 112
*** Паедзем у Цхіву, Карын... 113
Гай 114
*** Не дазволь пайсці мне... 116
*** У доме насупраць мыла жанчына акно... 117
Талін 118
Снягі 119
Дэльфінскае 120
*** Ты хмаркаю плыла... 122
*** Спішэла. З велічных вышынь... 123
*** Скончылася лета... 124
*** Праплыў перон і знік... 125
Чужая станцыя 126
*** Прызнаць віну, якой не варты вы... 128
У садзе над ракой 129
*** У пару лістапада... 130
Пытанне 131
Адказ 132
Апошні верш 133
Даведка аб нараджэнні *(судовая справа)* 134
Біяграфічная даведка 147

**Някляеў У.**

Н 99 Галубіная пошта: Вершы.— Мн.: Маст. літ., 1987.— 150 с.: іл.— (Б-ка беларус. паэзii).

Паэт адкрыта грамадзянскага, страсна публіцыстычнага пафасу, лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Уладзімір Някляеў кранае душы шматлікіх чытачоў глыбока прачулым словам пра самае інтымна-запаветнае ў чалавеку.

Непарыўная сувязь чалавека з роднымі каранямі, наша адказнасць перад мінулым і будучым, вялікая радасць жыцця — асноўны пафас яго лепшых вершаў, адабраных для гэтай кнігі з вядомых зборнікаў «Адкрыццё», «Вынаходцы вятроў», «Знак аховы», «Наскрозь».

Н $\frac{4702120202-039}{М 302(05)-87}$ 113—87 ББК 84Бел7

Библиотека белорусской поэзии

ВЛАДИМИР ПРОКОФЬЕВИЧ НЕКЛЯЕВ. **Голубиная почта.** Стихи. Минск, издательство «Мастацкая літаратура». На белорусском языке.

Загадчык рэдакцыі Г. С. Шупенька. Рэдактар В. М. Хлебавец. Франтыспіс М. А. Веціка. Афармленне В. С. Юрчанкі. Мастацкі рэдактар Л. Я. Прагін. Тэхнічны рэдактар А. Б. Барадзіна. Малодшы рэдактар С. І. Расянчук. Карэктар Т. В. Трубач.

ІБ № 2380

Здадзена ў набор 13.06.86. Падп. да друку 15.01.87. АТ 07525. Фармат 60×90¹/₃₂. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 4,75. Ум. фарб.-адб. 5,88. Ул.-выд. арк. 4,07. Тыраж 6000 экз. Зак. 2639. Цана 70 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.

7